Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

Ня бойся!

№ 16 (152), ЛІСТАПАД 2012 ГОДА

Цытата нумара:

**Ёсць розумы гэтак хлуслівыя, што нават ісціна, выказаная імі, становіцца хлуснёй.**

Пётр Чаадаеў.

МЕРКАВАННЕ

## ЧАМУ ЯНЫ КАЖУЦЬ НЯПРАЎДУ?

**Цяжкія нафтавыя перамовы паміж Беларуссю і Расеяй можна было б лічыць драмай, асабліва з улікам той вагі, якую мае нафтаперапрацоўка ў эканоміцы Беларусі. Але высілкамі высокіх чыноўнікаў яны паступова ператвараюцца ў нейкі фарс. Глядзіце самі.**

2 лістапада першы віцэ-прэм'ер ураду Беларусі Ўладзімер Сямашка пасьля чарговага раўнду перамоваў у Маскве выступае на паседжаньні Савету міністраў і ўпэўнена заяўляе: «Учора ва ўрадзе Расейскай Фэдэрацыі праблема паставак неабходных аб'ёмаў нафты на IV квартал была вырашана. Бакі выйшлі на дамоўленасьць аб тым, што... у IV квартале будзе пастаўлена 5,3 мільёна тон замест 4 мільёнаў тон».

5 лістапада намесьнік міністра энэргетыкі РФ Павал Фёдараў абвяргае беларускага віцэ-прэм'ера і заяўляе: «Дасягнутыя на высокім узроўні дамоўленасьці дазваляюць нам гаварыць пра пастаўкі прыкладна 4,8 мільёна тон нафты ў Беларусь у цэлым за квартал». Таму што больш не дазваляюць тэхнічныя магчымасьці трубаправодаў.

16 лістапада Ўладзімер Сямашка апавядае журналістам: «Беларусь дамовілася з Расеяй аб імпарце 23 мільёнаў тон нафты ў 2013 годзе».

19 лістапада намесьнік старшыні ўраду Расеі Аркадзь Дварковіч заявіў журналістам: «На дадзены момант мы не ўзгаднілі зь беларускім бокам аб'ём паставак нафты ў 2013 годзе да 23 мільёнаў тон. Перамовы па гэтым пытаньні працягваюцца».

*Чаму высокія чыноўнікі на ўвесь сьвет кажуць няпраўду? Ёсьць некалькі вэрсіяў адказу на гэтае пытаньне.*

**Па-першае,** на перамовах паміж афіцыйнымі дэлегацыямі Беларусі і Расеі адбываецца нешта дзіўноснае. Даволі часта бывала, калі нават пасьля сустрэч прэзыдэнтаў абодва бакі процілеглым чынам інтэрпрэтавалі тое, аб чым яны дамовіліся. А на ніжэйшым узроўні такое адбываецца значна часьцей. Гэта можна патлумачыць толькі тым, што падчас перамоваў адбываецца нейкі балаган, бакі перакрыкваюць адзін аднаго, вынікі перамоваў ніяк не фіксуюцца ў нейкім пратаколе. І гэта дае вялікую прастору для інтэрпрэтацый.

**Вэрсія другая.** Высокія беларускія чыноўнікі баяцца сказаць Лукашэнку праўду. Ён увесь час патрабуе ад іх пазытыву, падштурхоўвае даваць абяцаньні выканаць і перавыканаць усе пляны. І яны робяць тое, чаго ад іх чакаюць. Каб захаваць пасаду. Вось падчас спартовых разборак Лукашэнка папікаў былога міністра спорту — маўляў вы ж абяцалі мне прывесьці з Алімпіяды 25 мэдалёў. Абяцаў, ведаючы, што гэта невыканальна, бо так хацеў кіраўнік дзяржавы.

Тое ж самае і ў эканоміцы. Кіраўніцтва ўраду разумее, што дасягнуць гэтым годам росту валавога ўнутранага прадукту на 5,5% немагчыма. Але ўпэўнена абяцае гэта зрабіць. Можна ўзгадаць, як два гады таму беларускія афіцыйныя асобы казалі пра 15–16 мільярдаў даляраў кітайскіх крэдытаў для Беларусі, якія так і не зьявіліся тут.

Тым больш што прыклад дае сам Лукашэнка. Як паказвае досьвед, усе заявы беларускага кіраўніка, дзе прыводзяцца нейкія лічбы, трэба правяраць. Можна ўзгадаць, напрыклад, як мінулым годам ён паведаміў беларускаму народу, што Расея выдзяляе Беларусі 6 мільярдаў даляраў. Як потым выявілася, усё было зусім ня так. Ці апошняя заява Лукашэнкі, што ў ЗША 25 альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзыдэнты пасадзілі ў турму.

**І самае галоўнае.** Беларускія чыноўнікі даўно ўжо не адказваюць за свае словы. Яны добра ведаюць, што ніхто не спытае зь іх за няпраўду. Выпраменьваць казённы аптымізм даўно стала для іх ня проста звычкай, а другой натурай.

**Валер Карбалевіч, "Радыё Свабода".**

ЗЛАЧЫНСТВЫ СТАЛІНІЗМА

## ПОМНІЦЬ ТРАГІЧНЫ ЧАС РЭПРЭСІЙ

**Пачатак лістапада – час ўшанавання памяці Дзядоў, найлепшы час для аднаўлення памяці пра нашых дзядоў і прадзедаў, якіх ужо няма з намі. Таксама гэта час асаблівай памяці пра тых, хто быў рэпрэсаваны ў шалёныя сталінскія часы. Трэба ведаць, што 29 кастрычніка споўнілася 75 гадоў ад дня вынішчэння беларускай нацыянальнай эліты.**

Менавіта ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года стала проста жахліва знакавай. "У сутарэннях мінскай унутранай турмы НКВД — «амерыканкі» — былі расстраляныя больш за 100 дзеячаў культуры, мастацтва, навукі, буйных кіраўнікоў, тэхнічнай інтэлігенцыі тагачаснай БССР. Іх невінаватасць была пазней прызнаная нават савецкімі судамі", – піша "Наша ніва".

Аднак сталінскія рэпрэсіі кранулі не толькі нацыянальную эліту, але і шмат простых грамадзян па ўсёй краіне. Сярод ахвяраў сталінскага тэрору было шмат жыхароў Гарадоцкага раёна.

Лічбы і прозвішчы, імёны рэпрэсаваных у нашым рэгіёне магчыма атрымаць з вядомай кнігі "Памяць: Гарадоцкі раён" (Мн., 2004). Трэба мець на ўвазе, што ў кнізе даецца інфармацыя не аб колькасці рэпрэсаваных у цэлым, а толькі аб тых, хто з ліку рэпрэсаваных быў рэабілітаваны ў мінулым стагоддзі. Асноўныя хвалі рэабілітацыі прыйшлі на час перабудовы і першыя гады незалежнасці Беларусі. Менавіта ў 1989 і ў 1992 гадах была рэабілітавана найвялікшая колькасць з 951 рэабілітаванага жыхара Гарадоччыны. Відавочна, што гэтыя лічбы наўрад ці канчатковыя. Чаму? – гэта асобная размова. Да таго ж, лічбы не адлюстроўваюць усю глыбіню рэпрэсій, іх разнабаковыя наступствы.

Па маіх падліках, у названай кнізе "Памяць" змешчаны прозвішчы 951 чалавека, якія былі рэабілітаваны як ахвяры неабгрунтаваных рэпрэсій пераважна 30-х гадоў дваццатага стагоддзя. Падаўляючая большасць – сяляне як аднаасобнікі, так і калгаснікі.

Формы рэпрэсій розныя: турэмнае зняволенне, канцлагеры, высяленне ў Сібір, пазбаўленне ў правах, абмежаванне магчымасці ў жыхарстве і г.д.. І самыя трагічныя прысуды датычаліся расстрэла нашых землякоў. Растралялі за час рэпрэсій з рэабілітаваных 134 чалавека – кожнага сёмага з рэпрасаваных.

Самы першы факт рэпрэсій пададзены 1920 годам, а апошні 1945 годам. Відавочна, што гэта не канчатковыя лічбы рэпрэсаваных сялчан, служачых. Напрыклад, у гэтых спісах рэабілітаваных пададзеных на 25 старонках кнігі няма прозвішча Барыса Сляпцова, старшыні калгаса "Другая бальшавіцкая вясна", які быў створаны з жыхароў вёсак Зубакі, Кажамякі, Зуі, Шалабоўкі, Стрыжкі. Барыса Сляпцова растралялі летам 1930 года за тое, што ён пад час мокрага лета, каб высушыць калгасны лён, раздаў яго для апрацоўкі на калгасныя двары, каб яго вярнулі дзяржаве ўжо мятым. Пра суд над старшынёй ніхто не чуў, але расстралялі яго каля Гарадка ў "цёплым лесе" паводле натакі прыведзенай тут з раённай газеты "Прамень камунізма".

Першым растраляным у Гарадку стаў Яўген Даўгапольскі, агент па забеспячэнню. Асудзілі яго да расстрэлу 10 кастрычніка 1932 года і ў той жа дзень прысуд выканалі. А рэабілітаваны ён быў адным з апошніх – 3 траўня 1993 года.

Асноўная хваля растрэльных прысудаў прыйшлася на 1937-1938 гады. У гэтыя гады адпаведна было вынесена 51 і 66 растрэльных прысудаў.

Калі растрэльныя прысуды датычыліся кожнага сёмага з рэпрасаваных на Гарадоччыне, то абсалютная большасць прысудаў зводзілася да працы ў працоўна-папраўчых лагерах, дзе за кошт рабскай працы зняволеных вяліся будоўлі першых сталінскіх пяцігодак. І калі на пачатку 30-х гадоў асуджвалі на 3-5 гадоў, то з 1937 году адпраўлялі пераважна ў канцлагеры на 10 гадоў.

Геаграфія рэпрасаваных у Гарадоцкім раёне вельмі шырокая. У спісе месцаў пражывання рэпрэсаваных шматлікія ўжо не існуючыя вёскі. Толькі ў Бычыхінскім сельсавеце рэпрэсаваліся з такіх ужо не існуючых вёсак: Гарлашкі, Акунёва, Смалякі, Духава, Табарышча, Хацешына, Лішаі, Гараватка, Скобіна, Злыднікі, Макуры, Жыгуны.

Наогул, даследаванне тэмы рэпрэсаваных на Гарадоччыне справа канешне не адной нататкі. І яшчэ большую цікавасць мае даследаванне лёсу нашчадкаў рэпрэсаваных. Відавочна, што вайна Сталіна супраць ўсяго народу вельмі дорага каштавала Беларусі. Наступствы тых рэпрэсій мы спажынаем і зараз. Да гэтага часу на Беларусі не дадзена адэкватная ацэнка пачварным дзеяннням служакаў Сталіна, якія вынішчылі эліту беларускага народу.

**Л. Гаравы.**

КАНФУЗ

## «ФРАНЦУЗА» ЗААРАЛІ Ў ЗЯМЛЮ?

Партал "Народныя навіны Віцебска" паведаміў аб тым, што на двух палях каля вёскі Радчанкі, што ў Першамайскім сельсавеце па ўказанню кіраўніцтва ААТ "Гарадоцкі льназавод" зааралі ў зямлю падняты лён.

Па словах мясцовых жыхароў і дачнікаў, гэтыя сельгасугоддзі належаць ААТ "Гарадоцкі льназавод". Палі заворваіася ў пачатку лістапада, лён пры гэтым стаяў у конусах. Па неправеранай інфармацыі, яго падымалі студэнты.

Нагадаем, што 19 кастрычніка старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец разаслаў тэлефанаграму, дзе патрабаваў мабілізаваць не менш як 7-10 тысяч чалавек на ўборку лёну і завяршыць яе да 22 кастрычніка. Пра гэта паведаміў партал "ННВ" 17 лістапада ў сваіх навінах.

Наша газета пісала у красавіку аб тым, што ў гэтым годзе ААТ "Гарадоцкі льназавод" пасля шматлікіх льнаводчых гаспадарак Віцебшчыны вырашыў звярнуцца да вырошчвання льна французкага гатунка "алізэ". Пад гатунак "алізе" мяркуецца адвесці каля 120 га зямлі. І ёсць вялікая верагоднасць, што на палях пад Радчанкамі апынуўся лён менавіта элітнага французкага гатунка. Але адказ на гэта пытанне ўжо будуць шукаць і кампетэнтныя органы.

Наогул, зараз у краіне існуе перш за ўсё прыдарожная сельская гаспадарка – калі з вакон машыны чыноўнікі ад аграсектару могуць назіраць дагледжаныя прыдарожныя палі, каля дарог міжнароднага і рэспубліканскага значэння. А вось да таких палёў, як каля вёскі Радчанкі рукі ў розных кіраўнікоў часам і не даходзяць.

**Л. Антонаў.**

## Аб'ява

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**

**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.**

**Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.**

**Рэдакцыя шукае дабраахвотных распаўсюджвальнікаў газеты "Гасцінец", а таксама аўтараў публікацый. Магчыма узаемавыгаднае супрацоўніцтва. Звяртацца на тэлефон рэдакцыі.**

ВЫРАШЫЦЬ ПРАБЛЕМУ

# ГАРАДОЦКАЕ БЕЗДАРОЖЖА

**Пасля завяршэння палатачнай кампаніі 23 верасня ў Гарадку не праводзіцца грэйдзіраванне большасці вуліц прыватнага сектару. Фотаздымкі даюць частковае ўяўленне аб існуючым бездарожжы, да пазбаўлення ад якога старшыні райвыканкама Васілю Муранкову няма ніякай справы.**

З восеньскімі дажджамі відавочным становіцца занядбаны стан гарадоцкіх вуліц прыватнага сектару. Пасля таго, як майстар Сонца спыніў сваю працу колькасць ям і лужын і іх глыбіня на вуліцах Гарадка павялічваецца з кожным днём.

У жахлівым становішчы застаецца дарога на вуліцах Талкачова, Палявой, Юбілейнай. Ад летняга грэйдзіравання засталася толькі памяць і зараз аўтааматары могуць рухацца па ёй толькі на першай перадачы. Жыхары гэтага мікрараёна за Гаражанкай кажуць, што старшыня райвыканкама Васіль Муранкоў да іх дарогі не ведае. Ды і сапраўды, гэтую дарогу не паказваюць ніводнаму абласному чыноўніку. Ганебны стан гэтай дарогі пачынаецца ад Гарадоцкага райваекамата, дзе ўжо ў шчэнт разбіты асфальт.

Ганебны стан дарог не толькі ў гэтым мікрараёне, але і ва ўсіх астатніх частках горада, дзе месцяцца прыватнае жытло. Пры ўездзе ў Гарадок з боку Віцебска правалілася дарога да інтэнатаў, размешчаных па Баграмяна 49, 51 і да вуліцы Механізатараў. Часам кіроўцы выбіраюць за лепшае язду па газону, чым разьку пераадолення вялікіх ям.

У гразі і ямах патанаюць і іншыя вуліцы прыватнага сектару: Стараполацкая, Чкалава, Меліяратараў, Валіева, Маладзёжная, 3-я, 2-я Міра і гэтак далей. А дзяржаўныя ідэолагі працягваюць і далей сваю трасканіну пра сільную і квітнеючую Беларусь, пра краіну для народа. Толькі жыхары прыватнага сектару Гарадка ды і іншых мястэчак бачаць, што рэжым ніяк не займаецца дарогамі прыватнага сектару. Такая вось імпатэнцыя кіраўніцтва Гарадоцкага райвыканкама да прывядзення дабраўпарадкавання дарог прыватнага сектару.

Складзены сотні дзяржаўных праграм і падпраграм па фермах, турызму, будаўніцтву лядовых палацаў, бяспекі руху, штогадовых Дажынак, іннавацыях і інвестыцыях, а праграмы дабраўпарадкавання вуліц у прыватным сектары ўсё няма. І гэта ёсць ганебныя адносіны рэжыма да патрэб грамадзян, якія пражываюць у прыватных дамах і моўчкі носяць сваю крыўду. Як сто гадоў назад.

**Леанід Гаравы.**

**Ад рэдакцыі.** Пасля з'яўлення інфармацыі на сайце ўжо на наступны дзень вуліцы пачалі грэйдзіравацца. І гэта было зроблена двойчы за тыдзень, што значна палепшыла дарогі на вышэй названых вуліцах. Але ямы па ранейшаму на іх засталіся вялікімі і іх неабходна засыпаць гравіем. Застаецца пытанне: чаму вуліцы амаль два месяца не грэйдзіраваліся і хто за гэта адказвае?

ПАЛАТАЧНАЯ КАМПАНІЯ

# Адпіску пісалі больш месяца

**Леанід Гаравы, актывіст Руху "За Свабоду!", праз пяць тыдняў атрымаў адказ без аргументаў і довадаў ад Генеральнай пракуратуры на скаргу аб незаконных дзеяннях Лідзіі Ярмошынай, старшыні Цэнтрвыбаркама, пад час палатачнай кампаніі.**

3 лістапада Леанід Гаравы атрымаў адказ на скаргу, якую накіраваў у Генеральную пракуратуру яшчэ 28 верасня аб тым, што быў пазбаўлены права націраць на Гагарынскім участку, а Цэнтрвыбаркам не разгледзеў яго скаргу на рашэнне акруговай камісіі №21 па сутнасці... У пададзенай скарзе аб незаконных дзеяннях Лідзіі Ярмошынай актывіст Руху прыводзіў аргументы і довады аб тым, што яго скарга, накіраваная ў Цэнтрвыбаркам 23 верасня была разгледжана з парушэннямі патрабаванняў беларускага заканадаўства.

Сапраўды, 23 верасня Леанід Гаравы ўпершыню накіраваў скаргу на рашэнне Віцебскай сельскай акруговай камісіі №21 аб разглядзе скаргі на яго выдаленне з Гагарынскага ўчастка Пятром Прасолавым. Але Віцебская сельская камісія №21 выявіла "паранармальныя" здольнасці і скаргу пададзеную 20 верасня паспела разгледзець ранейшым днём – 19 верасня. Цэнтрвыбаркам пайшоў таксама шляхам някчэмных прававых дзеянняў: першапачатковую скаргу назіральніка Гаравога кваліфікаваў, як паўторны(??) зварот і спыніў перапіску.

Больш месяцы спатрэбілася Рыгору Шостаку, выконваючаму абавязкі начальніка ўпраўлення па нагляду за выкананнем заканадаўства і законнасцю прававых актаў Генеральнай пракуратуры, каб напісаць адказ без усякага аргументавання і довадаў. Пры гэтым Рыгор Шостак забыўтаецца ў тым на дзеянне якой камісіі Леанід Гаравы скардзіўся ў Цэнтрвыбаркам. Мусіць спадар Шостак дакладна не ведае, што ў вышэйстаячую камісію адпаведна выбарчага заканадаўства магчыма скардзіцца на рашэнне ніжэйстаячай камісіі – акруговай, і напісаў, што актывіст скардзіўся ў Цэнтрвыбаркам на рашэнне ўчастковай выбарчай камісіі ўчастка для галасавання №36. Пры гэтым супрацоўнік Генпракуратуры ніякім чынам не абгрунтаваў, што адказ старшыні Цэнтрвыбаркама дадзены ў адпаведнасці з патрабаваннямі беларускага заканадаўства аб зваротах грамадзян і праігнараваў усе аргументы і довады актывіста.

Фактычна склалася сітуацыя, калі ўсе вышэйстаячыя арганізацыі пры разглядзе скаргаў Леаніда Гаравога на незаконнае выдаленне яго з Гагарынскага ўчастка №36 не разглядаюць іх па сутнасці, а падаюць абсурдныя адпіскі, якія парушаюць беларускае заканадаўства. А гэта ёсць сведчанне прыярытэту чыноўніцкіх інтарэсаў над агульнадзяржаўнымі.

**Л. Антонаў.**

ТРАНАСПАРТНАЕ АБСЛУГОЎВАННЕ

# Улада пачула пра праблему аўтобуснага руху

**З 19 лістапада істотна змяніўся рух гарадскіх аўтобусаў на маршруце Гагарына – Бальніца – Вакзал – Гагарына. Чыноўнікі, адказныя за транспартнае абслугоўванне, вырашылі праблему аб якой пісала наша газета месяц назад у артыкуле "Чыноўнікі не бачаць змянення попыту".**

Для дзесяткаў грамадзян, якія вымушаны ездзіць на працу ў Віцебск, а таксама студэнтаў, якія навучаюцца ў абласным цэнтры, але жывуць у Гарадку, пачаўся рух гарадскога транспарту да першага дызеля на Віцебск, які адпраўляецца з чыгуначнага вакзала ў 6.20. Гарадскі аўтобус пачынае працаваць з 5.43, калі адпраўляецца з Гагарына на Бальніцу. Жыхары шматкватэрных дамоў з новага мікрараёна на вул. Камсамольскай могуць накіроўвацца на ім на чыгуначны вакзал у 6.00, а не ісці пешшу амаль чатыры кіламетры.

Новы графік руху улічвае і шматлікія скаргі жыхароў мікраараёна Гагарына на значныя разрывы ў руху з мікраараёна ў цэнтр і на бальніцу, а таксама амаль адначасовае ранейшае адбыццё аўтобусаў на бальніцу і вакзал з мікраараёна. Для пасажыраў, якія спяшаюцца на дызель да абласнога цэнтра на 12.00, рух аўтобуса з Гагарына пачынаецца на 11 хвілін раней – у 11.34. Таксама дадаліся рэйсы з Гагарына ў цэнтр на 12.27; 15.17, 16.10. Павялічылася таксама і колькасць аўтобусных рэйсаў і працягласць працы грамадскага транспарту ў выхадныя дні аж да 19.19 замест спынення руху у 14 гадзін.

Адначасова на аўтобусных прыпынках яшчэ з чацвярга з'явіўся новы расклад руху на металічных таблічках. Але чыноўнікі ад транспарту не абыйшліся без маленькай лыжкі дзёгцю ў гэтай справе. Пасля з'яўлення новых раскладаў на прыпынках і абвесткі ў "Гарадоцкім веснiку" аўтобусы да панядзелка працягвалі рух па стараму раскладу. І таму на першым рэйсе на вакзал накіравалася толькі пяць пасажыраў, а дзесяткі грамадзян шчэ не верылі, што аўтобус пачаў рухацца па новаму раскладу. Таксама выклікае сумненне, што на першы рэйс у суботу і нядзелю ў 5.43 будзе вялікі попыт. Не зразумела яшчэ які будзе рух аўтобуса ў святочныя дні. У еўрапейскіх краінах у гэтыя дні звычайна грамадскі транспарт рухаецца па раскладу выхаднога дня. Мы ж вядома за цывілізаваным светам не ідзем.

**Л. Гаравы.**

СВЯТА ДА НАС

# "ДАЖЫНКІ" ПРЫБУДУЦЬ У ГАРАДОК?

**17 лістапада ў Гарадоцкім райвыканкаму адбылася першая нарада па падрыхтоўцы Гарадка да рэспубліканскага свята "Дажынкі-2014".**

Рэспубліканскае свята "Дажынкі" з'яўляецца галоўным святам працаўнікоў сельскай гаспадаркі краіны. Па чарзе гэта свята праводзіцца ў розных абласцях краіны пераважна ў верасні. Пачатак быў пакладзены ў 1996 годзе, калі Дажынкі адбыліся ў горадзе Століне, што на Берасцейшчыне. У гэтым годзе Дажынкі сустракалі ў Горках Магілёўскай вобласці, а на наступны Дажынкі будуць у Жлобіне на Гомельшчыне.

Атрымаць права на правядзенне Дажынак з'яўляецца надзейнай гарантыяй атрымання значных інвестыцый у інфраструктуру горада. Таму і вядзецца кулуарная барацьба за гэта права і толькі яе адгалоскі выходзяць на паверхню. Напрыклад, на Гомельшчыне на наступны год спачатку вызначалі абласны цэнтр – Гомель, але потым перамянілі месца і з розных прэтэндэнтаў выбралі Жлобін.

Аналагічная змаганне за права правядзення Дажынак у пэўным горадзе адбывалася і на Віцебшчыне. Яшчэ на красавіцкім суботніку старшыня аблвыканкама Аляксандр Косінец анансаваў сваё жаданне правесці Дажынкі – 2014 у Віцебску. Але, як у правядзенні абласных Дажынак да яго не пайшлі насустрач, так і пры вызначэнні месца рэспубліканскіх Дажынак праз год, у Менску не палічылі патрэбным праводзіць свята ў Віцебску. Тут і так кожны год укладваюцца значныя інвестыцыі ў падрыхтоўку Славянскага базару.

Фактычна выбар адбыўся паміж Гарадком і Лепелем. Блізкасць наша горада да абласнога цэнтра мусіць стала галоўным фактарам на карысць Гарадка. "Паедуць у Гарадок – заедуць і ў Віцебск" – так прыкладна меркавалі абласныя кіраўнікі. Магчыма таксама занядбанасць сацыяльна-культурнай сферы райцэнтра, дзе ў аварыйным стане і Дом культуры, і кінатэатр пасадзейнічалі атрыманню гэтага права, каб урэшцерэшт адрамантаваць аб'екты культуры.

На сёняшні час у Гарадку пражывае каля 14 тысяч жыхароў. І наш горад будзе адным з самых маленькіх гарадоў, дзе праводзіліся Дажынкі. Меншым быў толькі першы горад Столін з 12 тысячамі жыхароў. Для нашага маленькага горада будуць і меншыя інвестыцыі, чым у Ліду ці Воршу, дзе лік ішоў на сотні мільярдаў рублёў. Але і іх будзе мусіць дастаткова, каб зіхацеў цэнтр Гарадка – з пабудаванымі аб'ектамі культуры, новым стадыёнам і басейнам і г.д.

**Л. Антонаў.**

ПРАКУРОРСКІЯ СПРАВЫ

# ЗАПЛАЦІЦЬ ДВОЙЧЫ ЗА ПАДМАН

**У гэтым годзе на Гарадоччыне аматары "пажартаваць" з адказнымі службамі аб не існуючай небяспецы выплачваюць не толькі штрафы за ілжывыя выклікі, але і кампенсуюць нанесеную шкоду.**

Такія дадатковыя метады ўздзеяння на падманшчыкаў і абароны інтарэсаў адказных службаў стала ўжываць у 2012 годзе Гарадоцкая пракуратура.

Па інфармацыі Гарадоцкай пракуратуры на сайце Гарадоцкага райвыканкама ў гэтым годзе ей прад'яўлена 25 іскаў у суд па спагнанню з вінаватых у ілжывых выкліках міліцыі, выратавальнікаў ці іншых адказных службаў выдаткаў, якія панеслі службы на выезд па падманных выкліках. Гэтыя іскі датычацца даўжнікоў за 2009-2010 гады. Пры разглядзе дадзеных іскаў тры былі спынены праз дабраахвотную аплату даўжнікамі патрэбных сум, а ўсе 22 іншых іска былі судом задаволены.

Кампенсацыя стратаў адказных службаў гэта звычайна другая частка адміністрацыйнага прысуда аб заведама ілжывым паведамленні па арт. 17.6 КаАП. Пры першым здзяйсненні гэтага правапарушэння хлуса чакае адміністратыўны штраф ад чатырох да пятнаццаці базавых велічынь. Гэта зараз адпаведна штраф ад 400 тысяч да паўтара мільёна. Але калі першае пакаранне нічому не навучыць грамадзяніна, то паўторнае здзяйсненне гэтага правапарушэння на працягу года пасля вынясення прысуда будзе караццa штрафам ад двух мільёнаў рублёў да пяці мільёнаў.

19 красавіка 2009 года грамадзянін Баранаў В.А. выклікаў да сябе па тэлефону "102" супрацоўнікаў Гарадоцкага РАУС, зрабіўшы ілжывае паведамленне аб небяспецы. 5 траўня 2009 года судом Гарадоцкага раёна ён быў пакараны штрафам у 4 базавыя велічыні па ч. 1 арт. 17.6 КаАП РБ. А ў 2012 годзе пракуратура выставіла іск да гэтага грамадзяніна аб кампенсацыі стратаў Гарадоцкага РАУС пры выездзе да яго па месцу жыхарства ў памеры 206 030 рублёў. Суд пададзены іск задаволіў і 14 чэрвеня гэтую суму з даўжніка ўзыскалі.

Пракуратура прызнае дадзеную практыку іскаў пазітыўнай мерай і будзе далей падаваць іскі ў суд дзеля кампенсацыі стратаў арганізацый ад ілжывых выклікаў. Аматарам пажартаваць трэба тройчы падумаць перш чым без падстаў набіраць нумары экстраных службаў "101", "102" ці "103".

**Т. Гаражанка.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# КДБ СУПРАЦЬ СЛЕСАРА

НЕШТА НЯЛАДНАЕ ТВОРЫЦЦА Ў АПЛОЦЕ СТАБІЛЬНАСЦІ. НЕ ПАСПЕЕ БЕЛАРУСЬ АЧОМАЦЦА АД АДНОЙ РЭЗАНАНСНАЙ СПРАВЫ З ВЫБУХАМІ, ТЭРАРЫЗМАМ ДЫ ІНШЫМІ ІНШАРОДНЫМІ ЭЛЕМЕНТАМІ, ЯК З'ЯЎЛЯЮЦЦА НОВЫЯ НАГОДЫ ЗАСУМНЯВАЦЦА Ў КРЫШТАЛЬНАСЦІ І МІРНАСЦІ БЕЛАРУСКАГА ЦУДА.

Гэтым разам КДБ выкрыў слесара-шпіёна, калі той закладаў «сакрэт» для замежнай разведкі. Пра характарыстыкі схованкі нічога не паведамляецца. «Камітэтам дзяржаўнай бяспекі спынена супрацьпраўная дзейнасць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Андрэя Гайдукова, які займаўся паводле задання замежнай разведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару», — паведамілі БелаПАН у Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ. «Згаданы грамадзянін затрыманы супрацоўнікамі КДБ у момант закладкі тайніка са звесткамі, што цікавяць замежныя спецслужбы», — сказаў Аляксандр Антановіч.

У дачыненні да Гайдукова распачата справа на падставе ч. 1 арт. 356 Крымінальнага кодэкса (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці, пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі згодна з часткай 1), «праводзіцца комплекс аператыўна-вышуковых і следчых мерапрыемстваў, скіраваных на выяўленне іншых эпізодаў яго супрацьпраўнай дзейнасці». Затрыманы змешчаны ў СІЗА КДБ. 22-гадовы Андрэй Гайдукоў працуе аператарам на наваполацкім «Нафтане». Багатая на дыверсантаў розных колераў Віцебская вобласць, што і казаць... Разам з Гайдуковым у той жа дзень затрымалі ў Полацку актывіста БХД Іллю Багданава. Аднак Багданаў хутка быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе, з яго ўзятая падпіска аб неразгалошванні таямніцы следства.

Слесар Гайдукоў удзельнічае ў дасюль малавядомым Саюзе маладых інтэлектуалаў і з'яўляецца першым намеснікам старшыні. Падчас перадвыбарчай кампаніі Андрэй Гайдукоў і Ілля Багданаў былі даверанымі асобамі былога кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Аляксея Філімонава. «Гэта поўная бязглуздзіца, якія дзяржтаямніцы можа ведаць або даведацца звычайны працоўны чалавек?! — пракаментаваў затрыманне Гайдукова для сайта «Хімік» эксКандыдат. — Ён мог сустракацца з замежнымі грамадзянамі па пытаннях стварэння моладзевай арганізацыі, але гэта патрабаванні нашага заканадаўства, што павінны быць замежныя заснавальнікі». Між іншым, знаёмыя Гайдукова сцвярджаюць, што англійскай мовы ён не ведаў.

Факт выкрытай шпіёнскай дзейнасці простага слесара выклікае мноства пытанняў і кпінаў. Асабліва цікава гэта глядзіцца на фоне апошніх падзей, звязаных са структурамі спецслужбаў. 11 лістапада каля будынка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці здарыўся выбух самаробнай прылады, распачата крымінальная справа па частцы 3 артыкула 339 КК (асабліва злоснае хуліганства).

Выбух у Віцебску адбыўся праз два дні пасля адстаўкі старшыні КДБ Вадзіма Зайцава (ён адхілены ад пасады 9 лістапада рашэннем кіраўніка дзяржавы), а таксама напярэдадні ўступлення ў сілу змяненняў і дапаўненняў у законы аб барацьбе з тэрарызмам, аб супрацьдзеянні экстрэмізму і ў некаторыя артыкулы Крымінальнага кодэкса (яны ўступілі ў сілу 12 лістапада). Аб рашэнні Лукашэнкі пасля нарады ў кіраўніка дзяржавы расказаў дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Леанід Мальцаў. Ён адзначыў, што ў сваіх выступах генеральны пракурор і старшыня Следчага камітэта паставілі шэраг пытанняў. У прыватнасці, яны тычыліся апошніх падзей, звязаных з Камітэтам дзяржаўнай бяспекі. «Усім вядома пра самагубства падпалкоўніка КДБ Аляксандра Казака. Ёсць і шэраг іншых пытанняў, якія патрабуюць уважлівага расследавання», — заявіў высокапастаўлены чыноўнік.




Шпіёна Гадукова затрымалі 8 лістапада. Выглядае на тое, што ў Беларусі завяліся чарговыя ворагі з касты «электрыкаўслесараў», якія спяць і бачаць, як бы дэстабілізаваць абстаноўку (знаёмая фармулёўка з гучнай справы расстраляных за арганізацыю выбухаў у сталіцы на Дзень незалежнасці і ў мінскім метро Канавалава і Кавалёва). Намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП) Алег Гайдукевіч, былы начальнік упраўлення ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна Мінска, паспеў зрабіць заяву для прэсы акурат з аналагічнымі словамі. «Гэта спроба дэстабілізаваць абстаноўку ў Рэспубліцы Беларусь, ніякіх жартаў і дробязяў мы тут не бачым», — падкрэсліў ён.

Пра супрацьстаянне, саперніцтва сілавых структур Беларусі вядома даўно. Як вынікае са слоў Мальцава, у гэтай сітуацыі лік на карысць Следчага камітэта — кіраўнік КДБ развітаўся са сваёй пасадаю. Верагодна, аперацыя суперзахопу шпіёна планавалася, каб паказаць, каму трэба, дзеяздольнасць КДБ, але было позна. Відавочна, своечасова прагучалі і выбухі каля будынка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці, а перад гэтым з'явілася інфармацыя пра выбухі каля дзяржаўнай мяжы і на тэрыторыі літоўскага пасольства. Не краіна, а логава змовы і тэрыстаў. Сумна, што крайнімі ў высокіх разборках становяцца грамадзяне, палітычныя апаненты (у выпадках надзвычайных сітуацый на допыты традыцыйна цягаюць прадстаўнікоў апазіцыі), а для некага гэта ўвогуле заканчваецца трагічным фіналам. Між іншым, хутка Новы год, то на тле апошніх падзей можна чакаць узмацнення ўвагі міліцыі, а таксама і ўзроўню трывогі жыхароў краіны. Навіны пра выбухі і бітвы за ўраджай зусім з аднаго шэрагу, і першыя ніяк не граюць на пазітыўны імідж уладаў.

**Вольга Хвоін, "Новы час".**

НЕ СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ!

# ПРАВА НА ЖЫЦЬЦЁ ЎЛАДЗІСЛАВА КАВАЛЁВА БЫЛО ПАРУШАНА

КАМІТЭТ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ААН ПРЫЗНАЎ, ШТО АДНОСНА ЎЛАДЗІСЛАВА КАВАЛЁВА, ЯКОГА ПАКАРАЛІ СЬМЕРЦЮ ЗА ВЫБУХ У МЕНСКІМ МЭТРО, БЫЎ ПАРУШАНЫ МІЖНАРОДНЫ ПАКТ АБ ГРАМАДЗЯНСКІХ І ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАВАХ.

Такое рашэньне камітэт ААН прыняў 14 лістапада, а 22 лістапада яго атрымалі і прадставілі журналістам маці Ўладзіслава Любоў Кавалёва і праваабаронцы Раман Кісьляк і Людміла Гразнова.

Сваё заключэньне па скарзе Любові Кавалёвай і сястры Ўладзіслава — Тацьцяны Козыр далі 18 экспэртаў з розных краін, што ўваходзяць у ААН. Яны адзначаюць канкрэтныя парушэньні, допушчаныя падчас правядзеньня сьледзтва, суду і выкананьня сьмяротнага прысуду. Галоўнае, што напісана ў гэтым дакумэнце: «Права на жыцьцё Ўладзіслава Кавалёва было парушана».

Юрыст Раман Кісьляк назваў журналістам парушэньні, якія прызналі міжнародныя экспэрты: «Па-першае, адносна Ўладзіслава Кавалёва ўжывалася фізычная сіла, недазволеныя мэтады. Яго прымусілі даць паказаньні супраць самога сябе. Ён пра гэта заявіў падчас судовага паседжаньня. І гэта парушэньне як забароны катаваньня і жорсткага абыходжаньня, так і забароны прымусу даваць паказаньні адносна асабіста сябе».

Экспэрты ААН пішуць і пра іншыя парушэньні. Напрыклад, іх зьдзіўляе, што амаль усе хадайніцтвы пракуратуры судзьдзі задаволілі, а патрабаваньні адвакатаў — амаль усе адхілілі. І гэта ставіць пад сумнеў, на думку экспэртаў, незалежнасьць і неперадузятасьць суду.

Маці Ўладзіслава Кавалёва заявіла журналістам: дакумэнты з Жэнэвы даюць ёй падставу сьцьвярджаць, што сапраўдныя злачынцы, якія зрабілі выбух у менскім мэтро, да гэтага часу не названыя. «Улады не спрабуюць знайсьці сапраўдных выканаўцаў гэтага страшнага тэракту», — сказала яна:

«Таму мы і сабраліся тут, каб расказаць людзям пра тую сыстэму, якая ў нас цяпер існуе, пра тое „правасудзьдзе", калі кагосьці проста прызначаюць на ролю вінаватых. І пра тое, як праходзіць сьледзтва і суд і як выносяцца такія страшныя прысуды. На жаль, сьмяротнае пакараньне адбылося. І нават такое рашэньне міжнародных экспэртаў ня верне мне сына. Але я хачу рэабілітаваць сына ў вачах людзей».

Праваабаронца Людміла Гразнова, якая назірала за працэсам па выбуху ў менскім мэтро, сказала «Свабодзе», што яна і тады ня бачыла ў віцебскіх юнаках тэрарыстаў. А рашэньне камітэту ААН толькі пацьвярджае гэтую веру: «Гэтыя дакумэнты праходзяць вельмі дакладную экспэртызу вельмі адукаваных спэцыялістаў. І яны, канечне, робяць дакладныя высновы. Таму рашэньне ААН — яшчэ адзін важкі дакумэнт на карысьць таго, што той суд ня быў абгрунтаваны, справядлівы, а тыя вынікі, якія ён паказаў, не зьяўляюцца рэальнымі. І няхай грамадзтва глядзіць на ўсё гэта і робіць свае высновы».

Што тычыцца другога расстралянага па гэтай справе — Дзьмітрыя Канавалава, дык яго родныя скаргаў у ААН не падавалі, і таму разглядалася толькі справа Ўладзіслава Кавалёва.

**Уладзімер Глод.**

НАША ЎЛАДА

# ГОРКІ РАЗВАЛЬВАЮЦЦА ПАСЬЛЯ ДАЖЫНАК

У СТАЛІЦЫ СЁЛЕТНІХ «ДАЖЫНАК» — РАЙЦЭНТРЫ ГОРКІ, ШТО НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ, — ЗАЧЫНІЛІ НА РАМОНТ ТОЛЬКІ ШТО ПАБУДАВАНЫ ГАЛОЎНЫ АБ'ЕКТ ФЭСТЫВАЛЮ: КУЛЬТУРНА-ЗАБАЎЛЯЛЬНЫ ЦЭНТАР.

Два месяцы таму зь яго сцэны адкрываў «Дажынкі» Аляксандар Лукашэнка. Цяпер памяшканьні цэнтру залівае вада. Будаўнічыя хібы спрабуюць выправіць у аўральным парадку.

Пляцоўка перад амфітэатрам перакапаная. У траншэі будаўнікі ізалююць плёнкай перакрыцьцё падземных памяшканьняў амфітэатру. Пагледзець, што там робіцца, не ўдалося. Здалёк відаць, што туды ўносяць матэрыялы для ізаляцыі і аздабленьня. Ля траншэі, як і два з паловай месяцы таму, зноў працуе цяжкая будаўнічая тэхніка. Будаўнікі на просьбу расказаць, чым яны займаюцца, адмахваюцца і ківаюць на начальства. Тое таксама негаваркое. Адзін з начальнікаў выказаў незадавальненьне крытычным сюжэтам на канале СТВ. У сюжэце начальнік аддзелу архітэктуры й будаўніцтва райвыканкаму Віктар Бяляеў апавёў пра праблемы амфітэатру: «Тэрміны нарматыўныя ўзьвядзеньня аб'екта — 27 месяцаў, а яго пабудавалі за дзевяць. Усе моманты тады немагчыма было ўлічыць падчас будаўніцтва, дый праектаваньня. Цяпер вось выявілася працечка. Вядуцца працы па будаўніцтве дадатковага дрэнажу, які прадухіліць траплення вады ў ніжэйшыя паверхі будынка».

Тое, пра што кажа спадар Бяляеў, прадбачыла задоўга да адкрыцьця культурна-забаўляльнага цэнтру інжынэр-гідратэхнік Вольга Савельева. Яна зьвярталася да чыноўнікаў і даводзіла, што тэхналёгіі ўзьвядзеньня аб'екта парушаюцца. Да яе парадаў не прыслухоўваліся. Спадарыня Савельева і цяпер выказваецца пэсімістычна адносна ўстойлівасьці самога цэнтру і навакольных будынкаў: «Нельга абцяжкаць будаўніцтва толькі грашовымі пытаньнямі, то бок людзі хапанулі грошы — і цяпер наагул будзем толькі здымаць плады ад гэтага. Цяпер ужо мала што можна зьмяніць. Цяпер яны будуць перарабляць да скончэньня веку. Цяпер можа і дом паплаць, які побач. Могуць пачацца пасоўваньні фундамэнта».

Студэнты сельгасакадэміі перад адкрыцьцём цэнтру бачылі, наколькі ён гатовы. Гаворыць адна са студэнтак: «Калі мы мылі сцэну, ВІП-лёжу, мы тады спускаліся ў памяшканьні, дзе цяпер боўлінг і меліся быць кавярні. Ужо тады, на момант адкрыцьця, ужо стаяла вада. Было зразумела, што да тэрміну яны не пасьпяваюць. Аўрал прывёў да гэтага. Ні вада тады не была падключаная, ні электрычнасьць».

Рамонт амфітэатру ўжо пасьпеў стаць часткай студэнцкага фальклёру і кпінаў моладзі. Гаворыць адзін са студэнтаў:

«Многія з гэтага цяпер жартуюць. Ёсьць у клюбе вясёлых і знаходлівых хлопцы, развіваюць гэтую тэму. Хутка будзе фэстываль КВЗ, там, пэўна, будуць жарты наконт амфітэатру».

Карэспандэнт: «А з чаго будзе жартаваць?»

Студэнт: «Будзем гадаць, сплыве амфітэатар ці не».

У падрыхтоўку Горак да «Дажынак» былі ўкладзеныя мільярды рублёў зь дзяржаўнага бюджэту. Чыноўнікі з гонарам рапартавалі, што падрыхтавалі райцэнтар за самыя сьціслыя тэрміны. Напрыклад, мясцовую лядовую арэну ўзьвялі ўтрая хутчэй за нарматыў. Цяпер гэтая аўральнасьць становіцца апраўданьнем вялікіх недаробкаў.

**"Радыё Свабода".**

НАША ЖЫЦЦЁ

# БУДЗЕ ЧАРГОВАЕ ПАДВЫШЭННЕ КОШТАЎ

АКЦЫЗЫ, ЯКІЯ З'ЯЎЛЯЮЦЦА АДНОЙ З ГАЛОЎНЫХ КРЫНІЦ НАПАЎНЕННЯ БЮДЖЭТУ ГРАШЫМА, З НОВАГА ГОДА ПАВЫШАЮЦЦА. РОСТ АКЦЫЗУ ВЫТВОРЦЫ БУДУЦЬ ПЕРАКЛАДАЦЬ НА СПАЖЫЎЦОЎ. АДПАВЕДНА, КОШТЫ Ў НАДЫХОДЗЯЧЫМ ГОДЗЕ ВЫРАСТУЦЬ. ЯКІЯ ТАВАРЫ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ БУДУЦЬ ДАРАЖЭЦЬ? КОЛЬКІ АД ПАВЫШЭННЯ АКЦЫЗАЎ АТРЫМАЕ КАЗНА? АДКАЗЫ НА ГЭТЫЯ І ІНШЫЯ ПЫТАННІ ВЫРАШЫЛА ЗНАЙСЦІ ІНТЭРНЭТ-ГАЗЕТА NAVINY.BY.

### Аб карысці гарэлкі для бюджэту

3 студзеня 2013 г. акцызы істотна вырастуць. Згодна з унесенымі зьмяненнямі ў Падатковы кодэкс, больш за ўсё павысіцца стаўкі акцызаў на цыгарэты. Так, стаўка акцызу на цыгарэты нізкага цэнавага сегмента вырасце з 1 студзеня адразу ў 2,1 разы да 60,2 тыс. рублёў за тысячу штук. Акцыз на цыгарэты сярэдняга коштавага сегмента павялічыцца з новага года амаль на 70% да 140,6 тыс. рублёў за 1000 штук. Нарэшце, для цыгарэт вышэйшага цэнавага сегмента акцыз падымецца прыкладна на 55%.

Значна вырастуць з новага года і акцызы на алкагольную прадукцыю. Напрыклад, стаўка акцыза на алкагольныя напоі з аб'ёмнай доляй этылавага спірту 7% і больш (сюды, у прыватнасці, адносіцца гарэлка) павялічыцца амаль на 35% у параўнанні з дзеючым узроўнем да 104,5 тыс. рублёў за літр бязводнага спірту ў гатовай прадукцыі.

Істотна ўзрасце таксама стаўка акцызаў на слабаалкагольныя напоі (рост акцызу ў залежнасці ад назвы прадукцыі складзе ад 34,5% да 46,3%). Заканадавец «пашкадаваў» толькі вытворцаў піва - з 1 студзеня акцыз на ячменны напой вырасце на 12,4%.

Павышэнне акцызаў закране ў будучым годзе і кашалькі аўтааматараў. На бензіны і дызельнае паліва стаўкі акцызаў вырастуць на 20%.

Для беларускага бюджэту акцызы з'яўляюцца адным з асноўных крыніц яго напаўнення. Паводле ацэнак Мінфіна, у 2013 годзе амаль 9% даходаў кансалідаванага бюджэту будзе сфарміравана за кошт гэтых ўскосных падаткаў, што ўключаюцца ў адпускную цану прадукцыі.

У 2013 годзе Мінфін плануе атрымаць у кансалідаваны бюджэт за кошт акцызаў больш 16,4 трлн.рублёў. У параўнанні з 2012 годам велічыня «акцызных» паступленняў у казну вырасце на 45%. Істотны рост даходаў чакаецца за кошт таго, што ў будучым годзе вырастуць згаданыя вышэй акцызныя зборы.

У матэрыялах да бюджэту на 2013 год, якія мае інтэрнэт-газета Naviny.by, прыводзяцца звесткі пра тое, якія менавіта акцызы гуляюць ключавую ролю ў фарміраванні казённых даходаў. Больш за ўсё акцызаў дзяржава плануе сабраць ад продажаў гарэлкі. Чакаецца, што каля 5 трлн. рублёў у казну паступіць за кошт гарэлачнага акцызу. Больш за 4,3 трлн. рублёў, паводле ацэнак Мінфіна, прынясуць у бюджэт паступлення ад збору акцызаў на аўтамабільнае паліва. Ніжэй інтэрнэт-газета Naviny.by прыводзіць памер чаканых паступленняў у бюджэт ад падакцызных тавараў.

Размер поступления основных акцизов в бюджет в 2013 г (в млрд. рублей)

| наименование товара | сумма акциза |
|---|---|
| водка | 5076,1 |
| ликеро-водочные изделия | 292,7 |
| вина плодовые | 1078,4 |
| пиво (кроме импортированного) | 1106,5 |
| табачные изделия (кроме импортированных) | 3290,4 |
| автомобильное топливо | 4366,8 |
| подакцизная импортированная продукция | 654,5 |

### Якога росту коштаў чакаць?

Рост акцызаў немінуча прывядзе да павышэння коштаў. Больш за ўсё могуць падаражэць тытунёвыя вырабы.

У кошце пачкі цыгарэт акцыз займае каля 20%. Адпаведна, з улікам таго, што акцыз на цыгарэты нізкага цэнавага сегмента падымецца на 109 адсоткаў, можна чакаць, што кошт пачкі вырасце больш чым на 20%. У выпадку з цыгарэтамі сярэдняга коштавага сегмента гаворка можа ісці аб павышэнні коштаў на 15%. Тытунёвыя вырабы з высокага цэнавага сегмента падаражэюць прыкладна на 10%.

«Існуюць розныя варыянты перакладання росту акцызаў на спажыўца. Першы - павелічэнне акцызу цалкам пераносіцца на плечы спажыўца, другі варыянт - частковa кампенсуецца за кошт прыбытку прадпрыемстваў», - распавёў Naviny.by прадстаўнік тытунёвай галіны.

Але, хутчэй за ўсё, дадаў ён, «усё вытворцы тытунёвай прадукцыі будуць імкнуцца да поўнага перакладанне акцызу на спажыўца, хоць гэты працэс і можа быць паступовым».

Алкагольныя напоі ў новым годзе таксама падаражэюць. У кошту бутэлькі гарэлкі, па дадзеных вытворцаў, акцыз займае прыкладна палову. Адпаведна, павышэнне акцыза на 34,5% можа прывесці да росту коштаў на 20%.

Павелічэнне акцызу, нагадаем, аўтаматычна вядзе не толькі да павышэння адпускных цэн вытворцаў, але і да росту ПДВ, а таксама гандлёвай надбаўкі. Усё гэта, у канчатковым рахунку, адбіваецца на ўзроўні цэн, якія мы бачым у крамах.

Што тычыцца ўплыву акцызаў на кошт такога папулярнага напою як піва, то тут сітуацыя наступная. У 2012 годзе піўны акцыз пастаянна (кожны квартал) павышаўся і, як следства, рост коштаў на ячменны напой апярэджваў інфляцыю. Згодна з сярэднім цэнах, якія прыводзіць Белстат, за студзень-кастрычнік піва падаражэла на 54,7% (пры інфляцыі за гэты перыяд 18,1%).

Усведамляючы, мабыць, што ў 2012 годзе з павышэннем ўскоснага падатку дзяржава перагнулі палку, заканадаўцы «пашкадавалі» півавараў, падвысіўшы піўной акцыз з 1 студзеня толькі на 12,4%.

Генеральны дырэктар ААТ «Піўзавод Аліварыя» Міхаіл Чэчанеў паведаміў Naviny.by, што ў кошце бутэлькі піва акцыз сёння займае каля 18-20%. Адпаведна, калі сыравіна не падаражэе (вытворцам пакуль невядома, якімі будуць цэны на солад і ячмень), падстаў для значнага росту коштаў на піва ў пачатку 2013 года не будзе.

Яшчэ адна адчувальная для спажыўцоў пазіцыя, якая ў будучым годзе ў сілу павышэння акцызаў падаражэе, - аўтамабільнае паліва. У кошту (адпускной цане) тоны бензіну акцыз ў цяперашні час складае каля 15%. Павелічэнне ўскоснага падатку на 20% павінна прывесці да росту адпускной цаны, ПДВ і гандлёвай надбаўкі.

Аднак, з улікам таго, што кошты на бензіны і дызпаліва ў Беларусі рэгулюецца дзяржавай, менавіта яно вызначыць, якая цана на гэтую прадукцыю будзе на аўтазапраўках. У 2012 годзе, нагадаем, кошты на паліва павышаліся некалькі разоў у сярэднім на 5%. Хутчэй за ўсё, нешта падобнае нас чакае і ў пачатку 2013-га.

**Дзмітрый ЗАЯЦ, naviny.by.**

ПРАБЛЕМЫ ІНВЕСТЫЦЫЙ

# БЕЛАРУСЬ АДПУЖВАЕ ІНВЕСТАРАЎ

УДЗЕЛЬНІКІ І ЭКСПЕРТЫ II МІЖНАРОДНАГА ФОРУМУ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА, ЯКІ ПРАХОДЗІЎ У МІНСКУ, АДНАДУШНА СЫШЛІСЯ Ў МЕРКАВАННІ, ШТО Ў БЕЛАРУСІ НЯМА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ. ТАКСАМА СПЕЦЫЯЛІСТЫ ГАЛІНЫ АДЗНАЧЫЛІ, ШТО ПРЫКЛАДЫ НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ - АДМОЎНЫ СІГНАЛ ДЛЯ ІНВЕСТАРАЎ, ПІША БЕЛАПАН.

Кіраўнік дырэктар кампаніі Lebortovo Capital Partners Сяргей Левін, у прыватнасці, заявіў: «Прыватызацыя ў краіне наогул не вядзецца. Калі раней урад спрабаваў дыскутаваць з прадстаўнікамі бізнесу аб прыватызацыі, то зараз нават дыскусій не вядзецца ».

«Што ж тычыцца прыватызацыі такіх буйных дзяржпрадпрыемстваў, як «Беларуськалій», МАЗ, МТЗ і іншых, якія з'яўляюцца «набыткам рэспублікі», - гэта «асобнае пытанне», дадаў Левін.

«У нас ёсць буйныя ўласнікі нерухомасці, напрыклад Мінгарвыканкам, Упраўленне справамі прэзідэнта. Можа, мы не будзем прыватызаваць флагманы, а пачнем з простых аб'ектаў нерухомасці, простых пытанняў «, - прапанаваў бізнесмен.

У сваю чаргу старшыня Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА) Аляксандр Швец выказаў меркаванне, што «адсутнасць спісаў прыватызацыі яшчэ больш пагоршыла сітуацыю». Гаворка ідзе пра трохгадовыя планы прыватызацыі, які былі адменены рашэннем прэзідэнта. Цяпер прыватызаваць можна любое прадпрыемства пры пэўных умовах і правілах ўзгаднення з дзяржаўнымі органамі. «У той сітуацыі, якая была раней, наяўнасць плана пасоўвала ўлады рабіць пэўныя крокі па прыватызацыі. Яго адсутнасць проста звяло да нуля гэтую працу », - заявіў Швец.

«Хто носьбіт гэтай ідэі па прыватызацыі? Хто-небудзь з урада разумее, для чаго патрэбна прыватызацыя? Ці разумеюць гэта службовыя асобы, якія курыруюць прадпрыемства або галіны? »- задаўся пытаннямі кіраўнік БНПА. На яго думку, у чыноўнікаў «няма разумення, для чаго патрэбна прыватызацыя ў завяршаным сэнсе, ці яно слабое».

Швец пагадзіўся з Левіным з нагоды прыватызацыі буйных прадпрыемстваў, якія з'яўляюцца базавымі для галін. «Ёсць маса малых прадпрыемстваў, ці проста маёмасць, якія таксама чамусьці не прыватызуюцца», - адзначыў ён. Чыноўнікі, дадаў Швец, пралічваюць выгаду ад самой продажу, але не ўлічваюць выгод, якія зможа даць дзяржаве прыватызаванае прадпрыемства праз 5-10 гадоў працы.

У ходзе дыскусіі спікеры таксама закранулі пытанне аб наступствах нацыяналізацыі такіх прадпрыемстваў, як «Камунарка» і «Спартак».

«Я лічу, што прыватызацыя - гэта добра, таму што прыватныя прадпрыемствы больш эфектыўныя, - падкрэсліў старшыня праўлення ЗАТ» МТБанк «Андрэй Жышкевіч. - Але ў дадзеным выпадку гаворка ідзе не пра прыклады прыватызацыі, а пра рэпрыватызацыі або нацыяналізацыі ». Гэта, па словах Жышкевіч, «стварае магутны адмоўны сігнал будучым інвестарам».

«Дапусцім, праз паўгода пачнецца масавая прыватызацыя, але інвестарам трэба разумець, што ў Беларусі можа здарыцца і зваротны працэс. І гэта будзе доўга атручваць жаданне ўдзельнічаць у прыватызацыі. Гэта больш сур'ёзная праблема, чым запаволенне тэмпаў прыватызацыі », - адзначыў банкір.

Дарадца-пасланнік, намеснік кіраўніка пасольства Германіі ў Беларусі Піцер Дэтмар падкрэсліў, што інфармацыя аб сітуацыі з «Камунаркой» і «Спартаком» распаўсюдзілася і за межы Беларусі. «Інвестары, якія маглі б быць зацікаўлены ў інвесціраванні ў Беларусь, атрымалі негатыўны сігнал. Можа быць, ёсць добрыя прычыны па нацыяналізацыі «Камунаркі», я ў гэтым не эксперт. Але сігнал для знешняга свету - вельмі адмоўны », - заявіў дыпламат.

Ён нагадаў аб тым, што ў гісторыі беларускай эканомікі існавала права «залатой акцыі», якое затым было адменена. «Мы цяпер маем тое ж самае, але ва ўтоенай форме. І такое становішча цяжка растлумачыць замежным інвестарам, паколькі іх адпужвае магчымасць страціць свае інвестыцыі », - сказаў Дэтмар. «Прыватызацыя павінна праводзіцца як належыць, у выразных прававых рамках», - заявіў прадстаўнік амбасады.

**Марына НОСАВА.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ЕЎРАСАЮЗ ПАЧЫНАЕ ДРУГІ ЭТАП ПЕРАМОВАЎ З БЕЛАРУССЮ

КІРАЎНІК ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕЎРАСАЮЗА Ў БЕЛАРУСІ МАЙРА МОРА ЗАЯВІЛА, ШТО "ЧАКАЕЦЦА ДРУГІ РАЎНД ТЭХНІЧНАГА ДЫЯЛОГА ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЕЎРАПЕЙСКІМ САЮЗАМ, ЯКІ АДБУДЗЕЦЦА НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ Ў БРУСЕЛІ".

Заява была зроблена ў Мінску падчас міжнароднай экспертнай канферэнцыі «Беларусь на скрыжаванні інтэграцыі: адносіны з ЕС у сітуацыі фармавання Еўразійскага саюза», піша «Народная Воля».

Пры гэтым еўрапейскі дыпламат адзначыла, што перамовы ідуць складана: «Адносіны Беларусі і ЕС калісьці былі ў значна лепшай форме, чым цяпер».

Па словах Майры Моры, галоўнае патрабаванне Еўрасаюза – «вызваленне і аднаўленне ў правах палітычных зняволеных».

Прадстаўнік Еўрасаюза таксама паведаміла, што беларускія ўлады самі абмяжоўваюць кантакты з Еўрасаюзам. Майра Мора нагадала аб праграме Еўрасаюза «Еўрапейскім дыялогу мадэрнізацыі для Беларусі», ад удзелу у якой адмовіліся беларускія чыноўнікі.

Нагадаем, што раней у гэтым годзе, 2 сакавіка, на саміце ў Брусэлі лідары краін Еўрасаюза заклікалі Раду ЕС прыняць далейшыя меры ў дачыненні да Беларусі. Пра гэта паведаміла Мая Качыянчыч, прэс-сакратар вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах Кэтрын Эштан. Прэс-сакратар заявіла, што лідары Еўрасаюза выказваюць занепакоенасць пагаршэннем сітуацыі ў Беларусі. «Яны вітаюць рашэнне Савета ЕС пашырыць спіс асобаў, адказных за рэпрэсіі ў дачыненні да беларускіх грамадзян і апазіцыі, а таксама за парушэнні асноўных правоў чалавека», – адзначыла Качыянчыч.

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.11.2012 у 18.20.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.